## ТОДАР ЛЕБЯДА

# ПЕСЬНІ



# ВЫГНАНЬНЯ

ТОДАР ЛЕБЯДА

# ПЕСЬНІ ВЫГНАНЬНЯ



МЕНСК — 1944

Genehmigt vom Generalkommissar für Weissruthenien I Pro Si/Sz. Minsk 13. XII. 1943. 5000 Stck. Papier: Ostland-Faser G. m. b. H. Minsk. Druck u. Broschierung: Druckerei „Aušra". Wilna. Erschienen: Im Februar 1944.
Verkaufpreis: RM 0.75.

Schul- und Jugendverlag in Minsk.

---

---

Выданьне: Выдавецтва Падручнікаў і Літаратуры для Моладзі у Менску.

Друк: Друкарні „Аўшра" у Вільні.

* * *

*Беларускі народ многа перацярпеў гора і зьдзеку. Найбольш, аднак, прыйшлося цярпець за часоў бальшавіцкага панаваньня. Бальшавікі, накідаючы сваю волю беларускаму народу, жорстка праясьледавалі усіх тых беларусаў — сялян, работнікаў, інтылігентаў, якія хацелі наладжваць жыцьцё у Беларусі так, як хацеў беларускі народ. Бальшавікі садзжалі беларускіх патрыётаў у вастрогі, канцэнтрацыйныя лягеры, высылалі у далёкія азіяцкія краіны, адкуль бальшыня з іх ніколі ужо ня вернецца, бо яны не змаглі перажыць бальшавіцкіх зьдзекаў і тых жудасных абставінаў, у якія іх укінулі бальшавікі, і зламжылі свае жыцьцё, як ахвяру, на аўтар Бацькаўшчыны. Ёсьць, аднак, і такія людзі, якім удалося перажыць бальшавіцкія зьдзекі, вырвацца з бальшавіцкіх кіпціроў і зьявіцца ізноў на беларускую*

*ніву да працы дзеля дабра беларускага народу. Да гэткіх шчасьліўцаў належыць між іншых малады беларускі паэта Тодар Лебяда. Яму удалося вырвацца з бальшавіцкіх рук, захаваць жыцьцё і цяпер ён плодна працуе на беларускай культурнай ніве. Ён, між іншым, напісаў п'есу з беларускага жыцьця з часоў бальшавіцкіх п. н. „Загубленае жыцьцё" і улажыў зборнік сваіх вершаў п. н. „Песьні выгнаньня", якія былі напісаны пераважна на высылцы і якія зьмешчаны у гэтай кніжцы. Зборнік гэты мае вялікія мастацкія вартасьці і ёсьць дакумэнтам тых усіх жудасьцяў, якія мусілі пераждыць беларусы ад бальшавікоў і да паўтарэньня якіх беларускі народ ніколі ня можа дапусьціцца.*

---

# Лісты да сябра

## Ліст першы

З усходу дзікага —
Людзкое дамавіны,
Пішу мой ліст,
Бо гэтыя сьнягі
Трывожаць часта
Доўгія ўспаміны
Аб вельмі блізкім,
Вельмі дарагім.

Успомніш Беларусь,
І кроў у жылах стыне...
Куды ні йдзеш —
З табой адна туга.
О, дружа, любы мой,
Як горка апастыліў
Мне край чужы
І дзікая тайга.

О, родны край!...
Каго ён не галубіў,
Каго у роспачы
І горы ня ўцішаў!...
Куды ні йдзеш —
Усё так сэрцу люба,
Куды ні глянеш —
Цешыцца душа.

Ідзеш загонамі,
А там на ніве — жнеі,
І льлюцца песьні
Жніўныя здалёк...
Вакол сядзібаў
Вішні ружавеюць,
Прыветна кланяецца
Кажны васілёк.

„Ты — наш і мы — твае“ —
Шасьцяць калосьсем нівы.
„І мы — твае“ —
Гамоняць гушчары.
Усё так хораша,
І дзіўным пералівам
Сьпяваюць птушкі
Рана на зары.

Я ўсёй душой
Любіў загонаў мову.
Я ўсёй душой
Любіў мой родны край...
І вось мяне,
Як злодзея, сурова
Зладзейскі суд
Бяз жалю пакараў.

Зладзейскі суд!...
То-ж ён чырвонай зграі
Душу сваю
За медзякі прадаў!...

...Мой дружа, любы мой,
Цяпер ты ў родным краі...
Дык вось паклон мой
Нівам перадай.

## Ліст другі

Ізноў пішу,
Бо сум ізноў бяз меры;
Пішу табе
З сібірскае глушы.
Часамі горач
Выльлеш на паперы,
І ўсё лягчэй
Злаецца на душы.

...Шырокі бэз
Цьвіце над родным домам,
Цьвітуць сады над рэчкаю...
А тут!...
Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасьця і пакут.

Тут кажны дзень
Нам новы сум прыносіць,
Тут кажны дзень
Прыносіць новы жах.
Мы так жывем,
Што кажны пазайздросьціць
Жыцьцю ранейшаму
Ранейшых катаржан.

Ты чуў няраз
Чыгунку за Байкалам,
Ды мо', ня чуў
Пра зьдзекі і прымус:
Бо тут цяпер,
Амаль, пад кажнай шпалай
Ляжыць замучаны
У выгнаньні беларус.

Ліхія зьлодзеі!...
Яны ілгуць нямала
Пра Беламор,
Сібір
І пра Байкал.
Павер-жа мне,
Што ні адзінай шпалы
Не дакраналася
Падлючая рука!

Іх колькі тут
Забітых, безгалосых,
Касьцьмі ня раз
Угнойвалі ральлю!...
Іх колькі тут,
Часамі нават босых,
Капаць зганялі
Мёрзлую зямлю!

...Шырокі бэз
Цьвіце над родным домам...
Цьвітуць сады над рэчкаю...
А тут!...

Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасьця і пакут.

Ой, пралягла
Чыгунка за Байкалам
Паміж узгор'яў
Роўна, бы абрус!
Цяпер на ёй
Амаль пад кажнай шпалай
Ляжыць замучаны
У выгнаньні беларус.

## Уладзімеру Хадыку

Дружа, любы, яшчэ толькі ўчора
Па сваёй радзіме ты хварэў душой;
А сягоньня ў гэтых дзікіх горах
У нябыт далёкі адыйшоў.

Гусьляра з душою набалелай
Не пачуем дзіўнае струны!...
Пахавалі зморанае цела,
Пахавалі, нават бяз труны.

Пагубляла маці свае дзеці, —
Іх цяпер, гаротнай, не сабраць.
Цяжка, дружа, дзесьці ў белым сьвеце,
Не пазнаўшы жыцьця, паміраць!...

Многа нас, адбітых ад радзімы,
Пахавае гэты дзікі яр.

Прыйдзе час і хтосьці, мо' адзіны,
Застанецца ўсётакі гусьляр!

Ён тады у сонечным прадвесьні
Пойдзе ў край вясёлкавых дарог, —
Ён тады з выгнаньня нашы песьні
Разьнясе па родных берагох.

## Сібірскія стэпы

Па Сібіру сумным,
Ад Уральскіх гораў,
Разьляглiся стэпы
Роўным дыванам.
Ой, чаму вы, стэпы,
Дзікія прасторы,
Зарасьлі так густа
Горкім палыном?

Вось іду па стэпу
Я павольным крокам —
Палыновым пахам
Аддаюць палі...
І куды ні глянеш,
Не акінеш вокам —
Па шырокім стэпу
Толькі ўсё — палын.

Эх, людзей нямала
У ліхую замяць
Палягло па стэпе.
Хто тут ня стрываў?!

Гэты стэп шырокі
Змочаны сьлязамі...
Мо' таму й расьце тут
Горкая трава?

Мо' таму і стэпы,
Дзікія прасторы,
Зарасьлі так густа
Горкім палыном.
Па Сібіру сумным,
Ад Уральскіх гораў
Разьляглiся стэпы
Роўным дываном.

## Надпіс
### на сьцяне 95-ай камары

Мне лёсам вызначаны
Гэтакі прымус.
Аб шчасьці сяньня
Можна сьніць і марыць.
За тое,
Што я толькі — беларус —
Мне гэтакая кара!
Я кару іхную
З пагардаю прыняў,
Бо я — сын верны
Маці — Беларусі.
І я сьвятога,
Гордага імя
Не адракуся!!!

Менск, 1940 г.



Выйду ў чыста поле,
Выйду раным - рана,
Калі шэпчуць шэптам
Жыта каласы,
Векавыя ліпы
Плачуць на кургане,
Плачуць на кургане
Кроплямі расы.

Выйду ў чыста поле,
Выйду раным - рана,
Покуль па - над кручай
Ня ўзыйшла зара.
...Пад шырокай ліпай
Часта вечарамі
Я чакаў каханую —
Ды ня раз.

Ой, ня раз прыходзіла
З русаю касою,
І сядзелі доўга
Аж да самых зор...
Па траве зялёнай
Чыстаю расою
Ткаў цудоўны вечар
Залаты узор.

І калі парою
Ліпы векавыя
Зашумяць наўкола
Сэрцамі — ліствой,

Мне тады здаецца,
Што я чую голас
Дарагой каханай
З русаю касой.

Выйду ў чыста поле,
Выйду раным-рана,
Покуль па-над кручай
Ня ўзыйшла зара.
Прыпаду да ліпы,
Дзе сядзеў [redacted] каханай,
Разьвітаўся з ёю
У вапошні раз.

Туруханск.

* * *

Ляці, мая думка, ляці, мая радасьць,
На родны, далёкі курган;
Дзе ліпы шапочуць у стройных
прысадах, —
Дзе родны, знаёмы мне гай.

Ляці па-над клёнам шырокім, плакучым,
Ляці ў родны край, гушчары;
На момант спыніся над соннаю кручай,
Дзе з любай сядзеў да зары.

Цябе, мая думка, радзіма прытуліць,
Сагрэе, бы хмельным віном,
Дзе ў горы — журбоце старая матуля
Чакае, сядзіць пад акном.

Ой, думкі чароўныя, лёгкія мары!..
Няма вам дарогі-пуці;
Няма вам Сібіру, суровае кары...
Ляці-ж, маё сэрца, ляці!

...Мядовыя ліпы у стройных прысадах,
І родны, знаёмы мне гай...
Ляці-ж, мая думка, ляці, мая радасьць,
На родны, далёкі курган!

Сібір.

## У выгнаньне

Бывайце, любыя
Загоны Беларусі!
У выгнаньне еду я,
Мой любы, родны край...
Апошні раз
На нівы падзіўлюся,
Скажу апошняе —
„Радзімыя, бывай!.."

Травой пажоўклаю
Сухія сенажаці
Ад ветру восенскага
Сумна шалясьцяць,
Бы адзінокая
Заплаканая маці
Хавае роднае
Апошняе дзіця.

Ці сьніў, ці ведаў хто,
Што ў гэтакую восень
Пакіну вас...

Бо я — ваш верны сын;
Здаецца мне,
Што жоўтае калосьсе
Пацiху плача
Кроплямi расы.

А так цудоўна
Ў гэтакую пору
Саткала восень
На палi абрус!..
Цягнiк iмчыць
Апошнiм касагорам,
I прамiльгнула
Мацi — Беларусь.

1937 г.

* * *

Цяжка, цяжка беларусу
У чужым краi,
Ой, на сэрцы
Непрасьветная туга!..
Толькi тут яму
Нiхто не спагадае,
Не пачуе яго дзiкая
Тайга.

Ой, ляцеце, шэры гусi,
Быстрым лётам,
Вы ляцеце на радзiму,
Ды хутчэй!

Бесканцовыя
Сібірскія сумёты
Дух апошні адыймаюць
Ад грудзей.

Не ляцелі на радзіму
Шэры гусі...
„Плачаш, бедны беларус,
„Але дарма!
„Мы былі ўжо на тваёй,
„На Беларусі —
„У цябе твас радзімы
„Ужо няма!

„Гэтым годам ля прыгорку,
„На узьлесьсі
„Твой гусьляр, здаўна каханы,
„Цаканаў.
„Змоўклі родныя
„Чаруючыя песьні...
„Там гуляе адмысловы
„Сатана.

„Мову родную спаганіў,
„Перайначыў,
„Гусьлі звонкія
„Да шчэнту ўсё разьбіў,
„А братоў тваіх,
„Жывых людзей астачу,
„Пераправіў канчаткова
„У Сібір".

Ігарка, 1940 г.

# Сон

Лучоса ціхая,
У ёй закату чырвань
Даўно схавалася,
Нямая ціш над лесам...
І вось са мной —
Знаёмая дзяўчына —
Даўным — даўно
Каханая Алеся.

Вось — клёны любыя,
Ой, клёны дарагія!...
Я добра памятаю
Дзіўнае „калісьці“,
Як падарыў ёй
Лепшую юргіню
Пад ціхі шэпт
Сухога жоўталісьця.

Няўжо яна?
Хачу абняць Алесю,
І не магу...
Яна-ж заве рукою.
Па небе плыў
Такі цудоўны месяц,
А ў гэты час
Спыніўся над ракою.

Алеся любая,
Калісьці гэтым лугам
З табой ня раз
Мы разам прахадзілі...

Я быў табе,
Як ты казала, другам,
І ты, здавалася,
Была ўсяне адзінай.

Гамоняць ціха
Клёны дарагія,
І я успомніў
Дзіўнае „калісьці“,
Калі дарыў ёй
Лепшую юргіню
Пад ціхі шэпт
Сухога жоўталісьця.

Усё па ранейшаму.
Ранейшыя прыметы...
Вунь ліпы рослыя
Схіліліся над домам...
„Скажы мне, Тодар,
„Ты яшчэ — паэтам?
„І па-ранейшаму
„Нікому невядомы?

„Ха-ха-ха, па-а-эт!..“
І з гэтым колкім сьмехам
Яна пайшла...
Павеяў лёгкі вецер.
На покліч мой —
Пачуў я толькі рэха,
І рэха потым
Плакала, здаецца.

Красноярск, 1940 г.

# Акрастых

Алесі Ш.

Тут я — адзін, са мною толькі вечар;
А за вакном вярба; яна мне сум
прыносіць.
Мо' таксама думае аб нечым,
У жыцьці, як я, згубіўшы штосьці?
Што-ж, жыцьцё... Ў жыцьці бывае
з кажным...
Толькі [redacted] ў палоне суму першы?
О, вярба!.. Няўжо заўсёды можна,
Як і я, мяняць жыцьцё на вершы?
Лепшае прайшло, скажу і зараз —
Юнасьць адыйшла занадта рана.
Буду я старыя вершы правіць —
Лёгкім птахам будзе па бульварах
Юнасьць лётаць позна вечарамі.
Ціха, ціха у маім пакоі.
Я ўспомню ўсё — агорне сум...
Бо „сучаснае" паверне на „былое",
Енкам песьні ў годы панясу.

# Вечарам

Замоўкла ўсё ў прасторы цёмнасінім,
Туман асеў палёгку на кусты;
Вакол так ціха, нават на асінах
Не зварухнуцца кволыя лісты.

Ні гуку лішняга, ні лішняга усплёску,
Застыгла ўсё ў палоне моцных дум.
І чую я, як лёгкія пялёсткі
Раняе часта ружа на ваду.

Часамі толькі лёгка і нясьмела —
Здалёк, здалёк з-за вёскі, з-за гары,
Плылі далёка гукі пасьвірэлу
І тонкім рэхам ніклі у бары.

1942 г.



Калі стомленае сонца па-над дахам
Шпарка хіліцца за горныя вярхі,
Я выходжу на ружовы захад
Паглядзець, на дзіўны небасхіл.

І дзіўлюся доўга сумным вокам
У пурпурова-дзіўны пераліў;
Там дзе захад сонечны — далёка
Засталіся родныя палі.

І ў зачну мне мружацца прасторы
Любых ніў над ціхаю ракой,
Над прысадамі пакінуты прыгорак
У блакітным моры васількоў.

Між загонамі квітнеюць сенажаці,
Над ракой — крутыя берагі,
Пад вакном — заплаканая маці
Па адзіным сыне дарагім.

Пакідай, матуля, горка плакаць,
Ня губляй пакутлівых надзей!
Веру я, што прыйдзе сьмерць сабакам,
Іх яна чакае кожны дзень.

Я тады ізноў к табе здаровым
Заяўлюся ў хату, ў родны кут.
За сталом за ўласным, за дубовым
Адпачнем ад гора і пакут.

Сонца стомленае села ўжо за дахам,
Зьніклі ў цемень горныя вярхі,
А я ўсё дзіўлюся шчэ на захад,
На далёкі, дзіўны небасхіл.

Сібір



Ой, ня раз матуля варажыла,
Пад вакном сядзела уначы.
Ой, ня раз, гаротніца, тужыла,
Прыглядалася часамі ў далячынь.

Прыглядалася, аж вочы прагля дзела,
Але сын каханы ня ішоў:
Толькі ў хату месяц жоўта-белы
Пасылаў праменьняў дзіўны шоўк.

Пад вакном за выцьвілай, за брамай
Расьцьвітаў ізноў прыгожы май.
Трэйці год, як сына ўжо забралі,
Трэйці год, як роднага няма.

Як забралі — весьці не пачула...
І на твары роспач і адчай.
Трэйці год, як бедная матуля
Перастала спаці па начах.

Поўнач. Стукнуў хтосьці. Хто там?
Гэта сон... Але-ж пасьля сама
Выбягае хутка за вароты, —
Прыглядаецца... глядзіць вакол... няма.

Той-жа ночы дзесьці на чужыне
Родны сын яе навек спачыў.
І дарма матуля варажыла.
Пад акном сядзела уначы.

## Адцьвітаюць ружы...

Адцьвітаюць ружы,
І з вялікім болем
Падаюць пялёсткі
Долу ды на рунь.
Да чаго-ж вы, ружы,
Выраслі ў полі,
Калі вось завялі
Гэтак не ў пару?!.

Ружы дарагія,
Надыходзіць ростань, —

Я сягоньня з вамі
Толькі званы госьць.
Адцьвітаюць ружы,
Падаюць пялёсткі,
Адцьвітае разам
З імі маладосьць.

Я любіў вас, ружы,
Ліпы на кургане,
Але вось прыходзіць
Ростані пара...
Хутка выйду ў поле,
Выйду раным-рана
Падзівіцца вамі
У апошні раз.

Адцьвітаюць ружы,
І з вялікім болем
Падаюць пялёсткі
Долу ды на рунь.
Хто згадае — скажа,
Ці пабачу болей
Вас я... але, можа
Сэрцам дагару.

Дагару душою
Нават на прадвесьні,
Бо укралі сэрца
Цесныя муры.
Дагару — завяну
Не прапеўшы песьні,
Разгубляўшы песьні
Рана на зары.

Турахански. 1940 г.

## Разьвітаньне з маленькай дачкою

Алеся любая,
Дачушка дарагая,
Што так боязна
Глядзіш ты на мяне?
Сягоньня я
Надоўга ад'яжджаю,
А там, — магчыма, стрэнемся...
Мо' не...

Я ручкі кволыя
Бяру сваёй рукою...
Сягоньня я... Ты плачаш?
Перастань!..
Пайду па вуліцы
Пад моцным пад канвоем,
Твой бацька,
Любы твой,
А сяньня — арыштант.

Гляджу я з роспаччу
У вочы дарагія, —
Шкада мне іх —
Маленства праміне.
...Алеся, любая,
Надыйдзе час — другія
Табе няраз расқажуць
Пра мяне.

Цябе, магчыма,
Больш не прыласкаю,
Але ня плач!
Вялікаю расьці!
Пасьля, як вырасьцеш
Вялікая такая, —
Ты ўчуеш шмат
Аб згубленым жыцьці.

Я еду ў край
Такі, што ты й ня сьніла,
Дзе многа, многа
Страшных мерцьвякоў,
Дзе кажны дзень
Капаюцца магілы
Дзеля замучаных,
Зьняволеных бацькоў.

Тады вось там,
Магчыма, на чужыне
З другімі разам
Упаду і я...
Ну што-ж... бывай,
Ды толькі ня тужы мне!..
Ну, дай руку мне,
Родная мая.

Менск, 1937 г.

*

Гляджу наперад — дзіўнай пазалотай
Заве цудоўны, сьвежы небасхіл.
Тудою мне пад жвірам і асотам
Ляжаць спавітыя туманамі шляхі.

Іду па іх, а жвір балючы — гостры...
Але ня мне пужацца раніць ног!
І я іду шляхамі тымі проста,
Іншых ня шукаючы дарог.

Праз ямы розныя, праз поле і балоты
Ляжаць спавітыя туманамі шляхі;
Іду па іх, бо дзіўнай пазалотай
Заве цудоўны, сьвежы небасхіл.

14 / VII 42 г.

## Восень

Прыйшла яна, панурая такая,
Прыбрала ўсё з рунеючых палёў;
Сваімі волкімі халоднымі рукамі
Зрывае лісьце дзіўных тапалёў.

Апошні раз над нівай пракрычалі,
І паляцелі ў вырай журавы.
І толькі бор задумна — вялічава
Стаіць над рэчкаю, як верны вартавы.

Да долу хіліцца панурая рабіна,
Бо надакучыла ёй восенская стынь;
І падаюць з галінкі на галіну
Апошнія пажоўклыя лісты.

## Вячорныя мроі

Хутка — ноч... і я чакаю ночы,
Я чакаю вырочлівую цень;
Хутка — ноч... і сэрца так і хоча
Да каханай, любай паляцець.

І калі павісьне ноч глухая
Па-над кратамі маленькага вакна, —
Я далёка ў думках залятаю,
Залятаю хутка, дзе яна

Гэтаксама познаю парою
Ў вадзіноцтве тужыць па начах,
І часамі горкаю сьлязою
Запівае смутак і адчай.

Я душой паэты залятаю
У блакітную, глухую далячынь...
Хто мне скажа?.. скажа, ці згадае, —
Дзе яна, каб з ёю адпачыць?..

Сэрца рвецца, бо імкненьняў поўна,
Сэрца прагне, — стрэчаю гарыць!..
...Эх, як хораша у гэтакую поўнач
Прасядзець з каханай да зары!..

Хутка — ноч... І я чакаю ночы,
Я чакаю змрочаную цень...
Хутка — ноч... і сэрца так і хоча
Да каханай, любай заляцець.

Менская турма, 1937 г.

## Песьня маладосьці

Выйду зноў у раньняе прадвесьне
Сустракаць цудоўную зару...
Для цябе сягоньня мая песьня,
Дарагая сэрцу Беларусь!..

На твае на бацькаўскія гоні,
На палёў нязьведаную шыр
Песьню гордую Крывіцкае „Пагоні"
Я нясу ад шчырае душы.

Нудных песьняў нам ужо даволі,
Кіньма сум на белыя бары!
Сяньня сэрца б'ецца, як ніколі,
Трэба жыць, змагацца і тварыць!

Шмат мы крыўды зьведалі вякамі,
Але мы зьбіралі й нашу злосьць!
Веру я — краіна прычакае
Нашу сілу, нашу маладосьць!

Выйду зноў у раньняе прадвесьне
Сустракаць цудоўную зару.
Для цябе сягоньня мая песьня,
Дарагая сэрцу Беларусь!

Віцебск, 1943 г.

---

# ЗЬМЕСТ

